# наша свабода

№38(125) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

9 КРАСАВІКА 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## Ахрэсцінскім палітвязням

Хлопцы!
З вашых прадзедаў карчавалі гонар і годнасць крэсавыя паланісты ды краёвыя шавіністы.
І што?
Жыла Беларусь!
З вашых дзядоў здзекаваліся і крывасмокі-фашысты, і фарысеі-камуністы.
Ну і што?
Жыве Беларусь!
Не паддамося сёння калгасным хакеістам і праваслаўным атэістам!
Жыцьме Беларусь!
І мы разам з ёю...

*Павел Севярынец, інвалід Вялікай Айчыннай, дзядуля,*
*Марыя Севярынец, пенсіянерка, бабуля,*
*Яўген Лабачэўскі, пенсіянер, дзядуля,*
*Галіна Лабачэўская, пенсіянерка, бабуля,*
*Кастусь Севярынец, журналіст, бацька,*
*Таццяна Севярынец, настаўніца, маці маладафронтаўца Паўла Севярынца.*

## Небяспечныя пытанні

Маштабнае хвалевае з'яўленне апошнім часам на вуліцах Мінска і іншых беларускіх гарадоў надпісаў і распаўсюд у самых разнастайных установах ад тэатраў да вышэйшых навучальных установаў улётак з пытаннямі аб лёсе зніклых вядомых у краіне асобаў сведчаць пра тое, што маральна-палітычны стан грамадства не занапаў. Яно за побытавымі клопатамі не павінна забывацца і прывыкаць да гэтага. Недабрабыт – гэта эканамічная нездавальнасць урадаў, а вось знікненне ейных апанентаў – гэта куды жудасней. Бо тое ўжо таталітарызм, які дабярэцца ў рэшце рэшт да кожнага.

Таму задаваць пытанні пра Ганчара, Захаранку, Завадскага, Красоўскага варта штодня. І ўлады мусяць на іх адказваць. Лукашэнкавыя фразы пра тое, што ён і за гэта вінаваты, бо вінаваты за ўсё, што адбываецца ў краіне, выглядаюць на звычайную для яго дэмагогію. Замест таго, каб шукаць зніклых, улады абвясцілі вайну тым, хто пытаецца: Дзе Захаранка? Дзе Ганчар? Дзе Красоўскі? Дзе Завадскі? Ці не значыць гэта, што такія пытанні іх раздражняюць і ім ёсць што хаваць?

Як НАША СВАБОДА ўжо паведамляла, уначы з 4 на 5 красавіка каля бетоннага плота на вуліцы Ціміразева, дзе было вялікімі літарамі напісана "Дзе Ганчар?", "Дзе Завадскі?", "Дзе Красоўскі?", "Дзе Захаранка?", былі затрыманыя чацвёра актывістаў студэнцкага руху «Зубр». На хлопцаў, якія правялі ў следчым ізалятары трое сутак, заведзеная крымінальная справа. Вось што распавёў па вызваленні адзін з лідэраў «Зубра» Аляксей Шыдлоўскі.

*Заканчэнне на стар.3*

# «Злачынную ўладу ў адстаўку!»



У Віцебску моладзёвыя арганізацыі правялі акцыю ў падтрымку зняволеных лідэраў апазыцыі. Кіраўнік Віцебскае арганізацыі Маладога Фронта Віктар Шляхцін, адказны сакратар Грамадзкага Аб'яднаньня ЦМІ «Контур» Юры Корбан і кіраўнік моладзёвае ініцыятывы «Адукатар» Кастусь Смолікаў трымалі плакаты з наступным зьместам: «Патрабуем вызваленьня лідэраў беларускае апазыцыі Вінцука Вячоркі і Алеся Бяляцкага», «Судовая сістэма павінна быць адкрытай і незалежнай», «Злачынную ўладу ў адстаўку!». Над пікетоўцамі лунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Паралельна распаўсюджваліся ўлёткі з патрабаваньнем вызваленьня затрыманых.

Па словах арганізатара акцыі Юрыя Корбана, моладзь асэнсавана пайшла на несанкцыяваную акцыю, бо гавораць пра дзеяньні ў межах закону, калі сама ўлада цынічна парушае гэты закон, не выпадае. «Мы абураныя той зьнявагай з боку рэжыму ў дачыненьні да лідэра самай буйной палітычнай партыі ў Беларусі і лічым затрыманьне лідэраў БНФ выклікам дэмакратычнай апазыцыі.

*Палата представителей РБ*
*Министерство иностранных дел РБ*
*Администрация Президента РБ*
*Департамент по гуманитарной деятельности при Президенте РБ*

# Открытое письмо российских правозащитников

Нам хорошо известно, что неправительственные организации Беларуси переживают нелегкие времена. Раз за разом предпринимаются действия, направленные на ограничение деятельности независимых общественных организаций, проводится широкомасштабная кампания по дискредитации некоторых из них, офисы правозащитников подвергаются неправомерным проверкам и нерасследуемым ограблениям со стороны якобы неизвестных лиц.

Последним шагом на этом пути стало появление президентского Декрета №8 «О некоторых мерах по совершенствованию порядка получения и использования иностранной безвозмездной помощи». Декретом установлен перечень видов деятельности, на которую разрешается использовать такого рода помощь извне, в том числе и из России. В этот перечень не вошли ни правозащитное, ни просветительское, ни экологическое, ни молодежное, ни многие другие важные и необходимые направления гражданской активности.

Излишне Вам напоминать, что согласно Конституции РБ и всем международно признанным стандартам граждане вправе самостоятельно определять направления свое общественной деятельности, при условии, что эта деятельность обеспечивает признание и уважение прав и свобод других и удовлетворяет справедливым требованиям морали, общественного порядка и общественной безопасности.

Таким образом, ограничение права на свободу ассоциаций граждан по политическим и экономическим мотивам не допустимо. Подобные действия государства противоречат статье 30 Всеобщей декларации прав человека, положениям Международного пакта об экономических, социальных и культурных правах (статьи 2, 4, 15); Международного пакта о гражданских и политических правах (статьи 19, 21, 22).

Поэтому мы выражаем решительный протест ограничениям прав и свобод граждан и их общественных объединений, которые проявляются как в Декрете № 8, так и во многих других неправовых действиях, совершаемых под руководством президента Лукашенко.

*Сергей КОВАЛЕВ, депутат Государственной Думы РФ, председатель общества «Мемориал»*

*Людмила АЛЕКСЕЕВА, президент Международной Хельсинкской Федерации, председатель Московской Хельсинкской группы*

*Валентин ГЕФТЕР, генеральный директор Института прав человека*

*Москва, 4 апреля 2001 года*

## НАВІНЫ

■ **5 красавіка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец быў асуджаны на дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту.** Севярынца, які вінаватым сябе не прызнаў, абвінавацілі ў арганізацыі шэсця і мітынгу ў Дзень Волі 25 сакавіка. Між тым, старшыня МФ не фігураваў нават сярод заяўнікаў акцыі на Дзень Волі.

■ **Паводле праграмы тэлефанізацыі беларускага насельніцтва, да 2005 года ў краіне будзе ўведзена 800 тысячаў новых нумароў.** З іх 646 тысячаў з'явяцца ў гарадах і 154 тысячы – у сельскай мясцовасці. Зараз на ўстаноўку новых тэлефонных нумароў у Беларусі пададзена 400 тысячаў заявак.

■ **Лабараторыя Беларускага дзяржаўнага ветэрынарнага цэнтра набыла абсталяванне для вызначэння бялкоў жывёльнага паходжання ў рыбнай муцэ і ў кармавых дабаўках.** Цяпер кожная партыя кармоў, што накіроўваецца ў Беларусь, будзе правярацца на каровіна шаленства і яшчур на гэтым абсталяванні. Раней даводзілася вазіць пробы кармавых дабавак на праверку ў Маскву.

■ **Мэр Мінска падпісаў распараджэнне, паводле якога ў звязку з цёплым надвор'ем адключаецца ацяпленне адміністрацыйных і вытворчых будынкаў.** Сюды не патрапілі пабудовы, дзе мусіць падтрымлівацца адмысловы тэхналагічны мікраклімат. У прыватнасці, гэта парнікoвыя камбінаты, архівы, музеі.

■ **Бліжэйшым часам у Беларусі ўпершыню будзе наладжаная вытворчасць аптычных кампактдыскаў – носьбітаў музычнай і электроннай інфармацыі.** Выпускаць іх збіраецца ў свабоднай эканамічнай зоне «Брэст» кіпрская фірма «Арніта». На спецыяльным прадпрыемстве плануецца вырабляць каля 900 тысяч дыскаў.

■ **З 10 па 13 красавіка ў Мінску дзесяты раз пройдзе міжнародная спецыялізаваная выстава «Бістро. Піва. Віны і напоі» з удзелам беларускіх і замежных фірмаў.** У экспазіцыі будуць прадстаўленыя гандлёвае абсталяванне для магазінаў, бараў і рэстаранаў, халадзільнае абсталяванне, тэхналагічнае абсталяванне для прадпрыемстваў грамадскага і хуткага харчавання, прадукты харчавання, піва, віны і іншыя напоі, пляшкавая тара, пакункі і этыкеткі.

## НАДВОР'Е

Віцебск +14 +18
Мінск +15 +19
Магілёў +17 +21
Гродна +9 +13
Брэст +12 +16
Гомель +19 +23



# Небяспечныя пытанні

Заканчэнне.
Пасатак на стар.1

***— На мінулым тыдні палітычным графіці ўлады абвясцілі сапраўдную вайну. Камунальныя службы пакідаюць на іх месцах непрывабныя фарбавыя плямы, а мінская міліцыя, кажуць, наогул працуе ва ўзмоцненым рэжыме, бо ёй дадзены загад лавіць «зуброў»-графітчыкаў. Аляксей, як пры такіх захадах праходзіла вашае затрыманне?***

— Калі здалёк на вялікай хуткасці з'явілася патрульная машына, падумалася толькі аб тым, што збегчы ніхто ўжо не паспее, ды і не было ніякага жадання бегчы. Дарма! Хоць ніхто затрымання не баяўся, тым не менш, такога «прыёму» ніхто не чакаў. Калі здаровы міліцыянт у блакітным камбінезоне выскачыў з машыны з аўтаматам наперавес ды, перадзёрнуўшы затворам, пачаў крычаць «Лежать, б..., щас всех перестреляю!», падумалася, што нас з некім зблыталі, што трапілі пад гарачую руку. Ды не. Мянты (самі яны сябе так называлі) кінулі мяне, Цімоха Дранчука, Зміцера Драпачку і Алеся Апарыча тварам у бруд і зашпілілі на заломленых за спіну руках кайданкі. Пасля па чарзе пачалі ўсіх абшукваць. Знайшоўшы балон з фарбай у Зміцера, пачалі валтузіць яго нагамі, а затым усім хлопцам з гэтага балона пафарбавалі рукі ў чорны колер — ці то дзеля нейкіх доказаў, ці то проста каб паздзекавацца.

Падчас вобшуку ў мяне і ў Цімоха Дранчука знайшлі службовыя мабільныя тэлефоны ды пачалі корпацца ў іх, спрабуючы некуды патэлефанаваць. Але тэлефоны былі закадзіраваныя для старонняга доступу, і гэта дужа раззлавала міліцыянтаў. Яны запатрабавалі, каб мы навучылі іх карыстацца тэлефонамі, а калі пачулі адмову, яшчэ некалькі разоў ударылі нагамі. Ад далейшых здзекаў выратаваў «варанок», які забраў нас у Цэнтральны РУУС.

***— Што было ў пастарунку?***

— Даведаўшыся, што пратаколы складаюцца па 143-ім артыкуле Адміністратыўнага кодэкса («Антысанітарыя ў горадзе»), па якім пагражае толькі да двух максімальных заробкаў штрафу, хлопцы разгаварыліся з міліцыянтамі. Некаторыя злаваліся, некаторыя падтрымлівалі. Так бы ўсё нармальна завяршылася, бо нам ужо аддалі рэчы. Аднак неспадзяванка — нейкі званок зверху ўсё разбурыў. Міліцыянты спахмурнелі, зноў забралі ўсе рэчы, шнуркі з чаравікаў, гадзіннікі і адправілі ў камеру, што знаходзіцца ў самім РУУСе. На нашы пытанні адзін адказ: «Прыйдзе начальства -- там разбярэмся».

***— Наступным днём нечаканак не абрынулася?***

— Гадзін у восем раніцы ў камеру зайшоў намеснік начальніка РУУС Барсукоў ды выказаў свае думкі наступным чынам: «Магчыма, вы і правыя. Але зараз вы ведалі, на што ішлі, і таму рыхтуйцеся». Раніца пераставала быць цягамотнай.

Трохі пазней дзверы яшчэ раз расчыніліся, і ў камеру зайшоў здаровы ахоўнік. Завёўшы сябе шчодрымі «б...» і «на ...» у грубым няўцямным маналогу, ён проста накінуўся на мяне з шалёнымі зрэнкамі. Цімох, які паспрабаваў заступіцца за мяне, толькі сам нарваўся на пяток добрых удараў у грудзі, з-за якіх пасля яму давялося звяртацца ў лякарню. Потым гэты мент зноў вярнуўся да мяне, і ўжо пачало станавіцца страшна, што ён не спыніцца ніколі. Ягоны самасуд перапынілі з-за спіны іншыя міліцыянты лянотным «харош». Было зразумела, што «антысанітарыяй» пасля такіх выхаваўчых работ не абмяжуюцца.

***— Аляксей, дзяжурны Цэнтральнага РУУС яшчэ напярэдадні казаў журналістам, што вас будуць судзіць за графіці па артыкуле «псаванне пабудоваў», што можа пацягнуць за сабой штраф, прымусовыя грамадскія работы ці зняволенне на 3 месяцы. Такое ўражанне, што з гэтым абвінавачваннем вам цягнулі наўмысна.***

— Толькі пасля фізічных застрашак пачаліся допыты «Дзе пісалі яшчэ?!» Больш ніхто ні ў чым не прызнаўся, і міліцыянтам не заставалася нічога, як паведаміць нам, што за нашыя пытанні нас абвінавачваюць па артыкуле 341 Крымінальнага кодэкса Беларусі. Артыкул цалкам гучыць так: ***«Псаванне будынкаў надпісамі цынічнага зместу і псаванне маёмасці на транспарце».*** Падкрэсліваю – «будынкаў» і «цынічнага». Гэта значыць, што ніякага крыміналу ў нашых дзеяннях не было. Няўжо ўбачылі цынізм у затурбаванасці лёсам зніклых людзей?

***— Ці праўда, што да вас прыязджала БТ?***

— Карэспандэнты Беларускага тэлебачання ўзялі ў мяне пятнаццаціхвіліннае інтэрв'ю з мэтай які-небудзь няўдалы кавалак маіх словаў паказаць пасля ў «Панараме», але, відаць, перакруціць ім не было чаго і інтэрв'ю ў эфір не прайшло...

***— А зараз вас вызвалілі на які тэрмін?***

— Мусім прыйсці на першы выклік. А як там будзе, пакажа час. Аднак, у любым выпадку адказаў на чатыры пытанні пакуль улада не дае нікому.

Думаючы пра раз'юшаную рэакцыю ўладаў на справядлівыя пытанні, якія задаюцца людзьмі, няўцям, як гэтак жорстка могуць дзейнічаць праваахоўныя органы. Гаворка ж ідзе разам з тым і пра тое, што сталася з іхнім колішнім начальнікам – экс-міністрам унутраных справаў Юрыем Захаранкам. Між іншым, гэта ці не самы паважаны і сумленны сілавы міністр у гісторыі Беларусі. Палюючы на «зубраўцаў», міліцыянты такім чынам губляюць прафесійны гонар.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**








Вось за гэтыя «цынічныя», «антысанітарныя» надпісы на агароджы па вуліцы Ціміразева ў Мінску чатыры юнакі былі закаваныя ў кайданкі і збітыя міліцыяй

## Апошняе слова Статкевіча і Шчукіна

10 красавіка лідэру Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалаю Статкевічу і дэпутату Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Валерыю Шчукіну, якія абвінавачваюцца ў арганізацыі і актыўным удзеле ў акцыях апазіцыі, будзе дадзена права выступіць у судзе з апошнім словам.

На судовым паседжанні 5 красавіка пракурор запатрабаваў для Мікалая Статкевіча пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі на адзін год з адтэрміноўкай выканання пакарання на адзін год. Лідэр БСДП (НГ) таксама павінен выплаціць больш за 756 тысяч рублёў за нанесеныя дзяржаве страты. Апрача гэтага, Мікалай Статкевіч не мае права мяняць месца жыхарства без дазволу МУС і абавязаны рэгулярна з'яўляцца на рэгістрацыю ў міліцыю.

Валерыя Шчукіна пракурор патрабуе пакараць штрафам у памеры 30 мінімальных зарплат. Апрача таго, на думку пракуратуры, абодва падсудныя павінны кампенсаваць матэрыяльныя страты ў памеры 46 тысяч 198 рублёў.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН**

## Крэмль вучыцца ў Лукашэнкі

6 красавіка прадстаўнікі Маладога Фронту правялі каля пасольства Расійскай Федэрацыі ў Мінску «лятучы» пікет у падтрымку тэлеканала НТВ.

Прыкладна апоўдні 15 маладафронтаўцаў прайшлі па вуліцы Камуністычнай да будынка пасольства, трымаючы ў руках зялёныя шарыкі з лагатыпам НТВ. Стаўшы ланцужком насупраць пасольства, яны разгарнулі плакат, на якім два чалавекі, падобныя да Лукашэнкі і Пуціна, душаць НТВ. Затым скандзіравалі некалькі разоў лозунгі: «Жыве Беларусь!» і «Жыве НТВ!».

Актывісты арганізацыі раздавалі мінакам тэксты звароту да расійскай грамадскасці: «Назіраючы стасункі прэсы і ўлады ў Расійскай Федэрацыі, мы не можам не заўважаць, што ў сваім імкненні абмежаваць сябе ад крытыкі, Крэмль схіляецца да запазычання лукашэнкаўскага досведу і ўзмацняе націск на незалежных журналістаў».

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## «Іканавоз» пустым не ходзіць

На хуткасным цягніку Масква-Варшава «Паланэз» у красавіку зноў выкрыта кантрабанда царкоўных абразоў. За абшыўкаю столі ў адным з купэ ўтойваліся дзве драўляныя дошкі з выявамі святых. Праз суткі пошук мытнікаў зноў быў выніковым...

Антыкварная мафія Расіі робіць грошы, не зважаючы на грэх перад царквою і на пільнасць памежнага кантролю. Музей у Бяла-Падлясцы атрымаў ужо ад мытні калекцыю з 1.500 экспанатаў, якія маюць гісторыка-мастацкую каштоўнасць. Па іх значнасці правінцыйны фонд канкуруе з музеямі Беластока і Саматылаў. У Брэсцкім музеі выратаваных каштоўнасцяў колькасць культавай кантрабанды павялічылася да 4 тысячаў адзінак. Абразы-двайнікі перададзеныя ў 53 праваслаўныя храмы на Брэстчыне і ў іншыя рэгіёны Беларусі. 80 абразоў вернутыя калекцыянерам у Яраслаўль, адзін вельмі рэдкі — з шыфрам Уладзіміра-Суздальскага запаведніка-музея — таксама патрапіў да законнага гаспадара. Прадаць кантрабандны антыкварыят музей нявольны. У адрозненне ад усіх еўрапейскіх краінаў, дзе гэты бізнес легалізаваны і дае прыбыткі для набыцця іншых музейных экспанатаў, Беларусь «складзіруе» чужую кантрабанду, трымаючы ў беднасці нацыянальную музейную справу.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## Былы гаркам – ва ўласнасць Расіі

Вялікія прыхільнікі інтэграцыйнай ідэі ў Брэсце на працягу амаль трох гадоў не дазвалялі машыністкам з аддзела адукацыі гарвыканкама з'ехаць з другога паверха сядзібы на вуліцы імя Куйбышава, 33, які больш вядомы ў горадзе знаходжаннем тут Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча ў Брэсце. Спатрэбіліся шматлікія перамовы, узгадненні і гарантыі ад суседзяў, пакуль нарэшце напрыканцы мінулага года праблему ўдалося вырашыць на карысць польскай дыпламатычнай службы.

Тым часам на вуліцы Пушкінская, 10 мізарнее арыгінальны будынак з высунутым над вуліцай зашклёным балконам. Мясцічы называюць яго «вітрынай». У перыяд 1920-1939 гадоў гэта была рэзідэнцыя галавы Палескага ваяводства, якую затым занялі бальшавікі і зрабілі прытулкам Брэсцкага гаркама партыі. У 1991 годзе сюды перамясціўся абласны краязнаўчы музей, а таксама рэстаўрацыйныя арганізацыі. Аднак і іх павысялялі: будынак адышоў ва ўласнасць міністэрства замежных справаў Расіі для консульства ў Брэсце. Новы гаспадар – нядбайны. З фасада архітэктурнага помніка абваліліся фрагменты тынкоўкі, пачарнелі аконныя рамы, а пазабіваныя дзверы палохаюць сваёй убогасцю.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Запасной председатель КГБ попал в Палату

*Оказывается, белорусский табель о рангах предусматривает пожизненные должности*

Как правило, отставленных подобру-поздорову генералов отправляют в резерв ведомств, которые они возглавляли. Так произошло и с недавно уволеными первым заместителем госсекретаря Совета безопасности Новельским и заместителем председателя КГБ Наркевичем и самим председателем этого ведомства Мацкевичем. До сих пор подразумевалось, что такого рода резервистов можно будет использовать на разных должностях. Но, оказывается, это не всегда так.

Судя по опубликованному списку депутатов, попавших в палату №2 нынешнего законодательного органа, есть и такой избранник народа, для которого в КГБ зарезервирована должность председателя этого ведомства. Надо полагать, пожизненно. Так и написано, находится в резерве Комитета госбезопасности на должности председателя КГБ. Это известная в стране фигура Владимир Демьянович Егоров. В связи с обнародованием имени запасного председателя КГБ стоит вспомнить некоторые страницы его послужного списка.

Генерал-лейтенант В.Егоров уже возглавлял КГБ. Было это сразу с приходом А.Лукашенко к власти. Своеобразие появления в КГБ милицейского генерала заключалось в том, что в период предвыборной президентской кампании он являлся доверенным лицом... Станислава Шушкевича. Видимо, тогда доверие к В.Егорову подпитывалось и тем, что еще до смещения с поста спикера С.Шушкевича правительственным большинством в Верховном Совете был уволен член правительства, министр внутренних дел В.Егоров. Помнится, тогда он вместе с председателем КГБ генералом Эдуардом Ширковским написали протестное письмо на имя премьера Вячеслава Кебича. Два генерала протестовали против уменьшения роли МВД и КГБ путем создания дополнительных спецслужб. Но уволили этих двух генералов-«вольнодумцев» не только и не столько за то, что их письмо как бы случайно попало в прессу. Агрессивно-послушное большинство в Верховном Совете обвинило Э.Ширковского и В.Егорова в тяжком грехе — выдаче литовским властям двух руководителей компартии Бурокявичюса и Ермолавичюса, которые скрывались в Минске за организацию мятежа в Вильнюсе. Как известно, придя к власти, А.Лукашенко обратился, по гуманным соображениям, к литовским властям с просьбой освободить двух стариков. Но они до сих пор сидят в тюрьме.

Что касается В.Егорова, то его политическая карьера развивалась за последние годы не всегда гладко. Поработав недолгое время в качестве председателя КГБ, он уступил эту должность Владимиру Мацкевичу и ушел в парламентарии. После приснопамятного референдума в 1996 году экс-шеф КГБ принял его итоги и оказался среди тех ста депутатов Верховного Совета, которых практически согнали в палату №1 нового законодательного органа, лишенного права законодательной инициативы. Видимо, понимая всю условность депутатского мандата, В.Егоров не особо стремился попасть на какую-нибудь должность в палате. Например, возглавить комиссию по безопасности. Его потянуло на дипломатическую работу. И тут произошла осечка. Латвийские власти не дали агреман на должность посла. Они сослались на то, что закон не позволяет это сделать в отношении бывшего министра внутренних дел Латвийской ССР, коим бывший высокопоставленный комсомольский функционер В.Егоров также успел поработать.

Другая неожиданная осечка в честолюбивых планах генерала произошла на выборах в палату №2, осенью прошлого года. По примеру некоторых российских генералов, пошедших на выборы, генерал В.Егоров в своем парадном генеральском мундире стал пиарить среди избирателей в трудовых коллективах. Но такие технологии почему-то не помогли, не прошел. Правда, вместо него в другой, верхней палате нынешнего парламента «сенатором» оказалась его супруга Ядвига Григорович — ректор Белорусского государственного университета культуры. По президентскому списку. Как известно, в нем оказались действующие дирижеры, актеры, балетмейстеры, представители других общественных слоев.

Уже казалось, что беспартийный юрист (так в официальной биографии) В.Егоров после неудачных для себя выборов повременит с властными планами. Но, видимо, какие-то мотивы заставили В.Егорова вновь попытаться, в другом уже округе, попасть в палату. И только после второго тура ему это все же удалось. Есть основания предположить, что на этот раз он и возглавит депутатскую комиссию по безопасности. Тематика ведь очень знакомая. А тут на подходе рассмотрение в палате №2 новой концепции национальной безопасности. Ведь кто-то хоть что-то там должен понимать, о чем идет речь. Да и палаточным спикерам с заместителями, кстати, придется в подмогу юрист-чекист.

Но есть в связи с приходом в палату В.Егорова и некоторые другие предположения.

Столь упорное стремление в нее попасть может свидетельствовать и о том, что искушенный аппаратчик и политик, коим считают В.Егорова, видимо, предчувствует, что в скором времени может быть востребован на более весомые должности.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# Нью-Йорк—Жэнева транзіт

*Павел Барадзін, дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, у суботу быў звычайным авіяцыйным рэйсам перавезены з Нью-Йорка, дзе ён амаль чатыры месяцы ўтрымліваўся за кратамі, у Жэневу.*




Дэпартацыя Паўла Барадзіна з Нью-Йорка ў Жэневу. Ён – другі справа

Тут ён з асобы, што хаваецца ад правасуддзя, быў ператвораны ў абвінавачваемага. Як паведамляе *Associated Press*, следчы швейцарскай пракуратуры Даньель Дэво прад'явіў Паўлу Барадзіну афіцыйнае абвінавачванне ў «адмыванні грошай» і прыналежнасці да злачыннай групоўкі. Следчы сцвярджае, што былы кіраўнік упраўлення справамі адміністрацыі прэзідэнта Расіі займаўся адмываннем грошай, атрыманых у якасці «камісійных» ад кампаніі *Mabetex* за кантракты па рэканструкцыі Крамля ў сярэдзіне 1990-х гадоў. У якасці «злачыннай групы Барадзіна» фігуруюць людзі, якія, паводле швейцарскай пракуратуры, былі пасярэднікамі паміж тагачасным крамлёўскім начальнікам гаспадаркі і *Mabetex*.

У самы бліжэйшы час, можа нават, заўтра, пракуратура Швейцарыі мусіць вызначыцца наконт меры стрымання для П.Барадзіна: заклад або арышт. Генеральны пракурор кантона Жэнева Бернар Бертоса сцвярджае, што ў выпадку вызвалення П.Барадзіна пад заклад існуе рызыка, што той кінецца ва ўцёкі. Таму сума закладу мусіць быць вельмі вялікай, і простая канфіскацыя пашпарта тут не дапаможа.

Пакуль што адбыліся першыя допыты абвінавачваемага. Першы з іх адбыўся ў суботу ўдзень. Праз паўгадзіны пасля пачатку прыйшлі адвакаты П.Барадзіна, і пачалася сустрэча ў кабінеце Д.Дэво. Жэнеўскі адвакат дзяржсакратара Дамінік Пансе паведаміў прэсе, што яго кліент на допыце цалкам абвяргаў сваю віну. «Ён сказаў, што ні ў чым не вінаваты, і дадаў, што катэгарычна не згодны з прад'яўленымі абвінавачваннямі», – паведаміў Д.Пансе.

Адвакат заяўляе, што швейцарская юстыцыя не можа займацца гэтай справай, бо «ў Расіі абсалютна дакладна ўстаноўлена, што за Барадзіным не існуе ніякай віны, аб чым ёсць адпаведная пастанова Генеральнай пракуратуры».

Тым часам, дзяржаўны сакратар працягвае сваё знаходжанне за кратамі, якое пачалося яшчэ 17 студзеня. Але цяпер замест Бруклінскай турмы Нью-Йорка яго прымае жэнеўская *Champ Dollon*.

Намеснік начальніка турмы Гі Савары распавёў прэсе, што Павел Барадзін утрымліваецца ў адзіночнай камеры – самай звычайнай, такой жа, як іншыя 130.

У камеры стаяць драўляны аднамесны ложак і стул, ёсць санвузел. Стала няма – яго замяняе пашыраны падаконнік. Душ і ванная – адна на паверх.

Адразу пасля прыбыцця Павел Барадзін атрымаў правілы знаходжання на рускай мове (пераклад рабіўся 5-6 гадоў таму). У адпаведнасці з гэтымі правіламі, зняволеныя могуць размаўляць па тэлефоне на працягу 15 хвілінаў адзін раз на два тыдні. (Заўважым, што гэта куды менш камфортна, чым у Бруклінскай турме – там можна было гаварыць па тэлефоне па пяць разоў у дзень без абмежавання часу.) Як замежны грамадзянін Павел Барадзін мае права на кантакты ў любы час. Але выключна па ягонай просьбе, якая мусіць быць накіраваная ў расійскае консульства. Усе наведванні мусяць санкцыянавацца следчым. Следчы ж займаецца цэнзурай усёй карэспандэнцыі – затое колькасць лістоў на волю не абмяжоўваецца.

Паводле правілаў турмы *Champ Dollon*, тэлевізар і радыё зняволеныя мусяць устанаўліваць самі. Іх можна набыць у турэмнай лаўцы або атрымаць у якасці перадачы з волі. Відэамагнітафон забаронены. Расійскіх газетаў у турме няма. У бібліятэцы ёсць невялікая падборка кнігаў на рускай мове.

*Champ Dollon* – практычна адзіная турма ў Жэневе, якая выконвае ролю следчага ізалятара. Палова тых, хто туды трапляе, выходзіць на волю на працягу тыдня. Звычайна тэрміны следства не перавышаюць 35-40 дзён.

Будынак вязніцы адносна новы – яму 27 гадоў. Пакуль што капітальны рамонт не рабіўся, але пастаянна вядуцца работы па падтрыманні збудавання ў належным стане. Нядаўна, напрыклад, цалкам былі заменены дзіравыя дах.

У турме ўсяго 164 камеры, разлічаныя на 270 месцаў: 244 – для мужчынаў і 26 – для жанчынаў.

Як паведаміў Гі Савары, на сённяшні дзень ягоная турма «крыху перапоўненая» – там знаходзіцца каля 350 зняволеных, у тым ліку 5 расіянаў.

Харчаванне кожнаму зняволенаму забяспечваецца з разліку 7 долараў на дзень. Пры гэтым ёсць магчымасць зрабіць рацыён крыху больш разнастайным – гэта датычыць вегетарыянцаў і тых асобаў, хто не есць свініну. Намеснік начальніка турмы падкрэсліў, што ў цэлым па стравах і іхняй якасці турэмны абед не саступае таму, што ядуць у горадзе многія швейцарцы.

Зняволеным дазволеныя штодзённыя прагулкі на працягу 1 гадзіны. У турме няма басейна, але ёсць спартовы зал з трэнажорамі, дзе зняволеныя могуць займацца пад наглядам інструктара і ахоўніка.

Цікава, што самі ахоўнікі не маюць ніякага ўзбраення – нават дубінкі. Выпадкі боек паміж зняволенымі вельмі рэдкія. І толькі аднойчы за ўсю гісторыю турмы «пад раздачу» трапіў і ахоўнік.

Больш за 80% зняволеных у *Champ Dollon* – замежныя грамадзяне. На сённяшні дзень большасць з іх паходзяць з былой Югаславіі, Албаніі, а таксама суседняй Францыі.

Менавіта ў такіх умовах будзе чакаць вырашэння свайго лёсу Павел Барадзін.

Дарэчы, паводле інфармацыі некаторых СМІ, швейцарская пракуратура можа прапанаваць П.Барадзіну здзелку: воля і зняцце абвінавачванняў у адмыванні 25 мільёнаў долараў праз швейцарскую нацыянальную банкаўскую сістэму – у абмен на імёны саўдзельнікаў. Для гэтага дзяржсакратару проста прапануюць сказаць, хто ж атрымаў тыя 25 мільёнаў долараў замест яго.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Дыскатэкі ў Асвенцыме не будзе

Польскія ўлады забаранілі адкрыццё забаўляльнага цэнтра непадалёк ад былога нацысцкага канцэнтрацыйнага лагера Асвенцым. Пра гэта паведаміла радыё «Свабода».

Раней кракаўскія гарадскія ўлады дазволілі наладзіць непадалёк ад Асвенцымскага мемарыяла маладзёжную дыскатэку. Гэтае рашэнне выклікала рашучы пратэст міжнародных габрэйскіх і антыфашысцкіх арганізацыяў.

Падчас Другой сусветнай вайны ў Асвенцыме былі знішчаныя амаль паўтара мільёна чалавек – мужчынаў, жанчынаў і дзяцей. З іх амаль мільён складалі габрэі, якіх прывозілі ў канцлагер з іншых краінаў, што былі акупіраваныя фашысцкай Германіяй.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Камуністы-тэрарысты



У Непале групоўкі камуністаў – прыхільнікаў вучэння Мао Цзэдуна – вядуць сапраўдную тэрарыстычную вайну супраць дзяржавы.

У ноч з суботы на нядзелю ў адным з гарадоў на захадзе Непала адбыўся выбух у паліцэйскім пастарунку. Бомба, закладзеная мааістамі, сталася прычынай смерці 47 чалавек, у тым ліку 29 паліцыянтаў. Пра гэта паведаміла агенцтва *MiG News*.

Намеснік прэм'ер-міністра Непала Рам Чандра Пудзел заявіў, што гатовы пайсці на пэўны кампраміс з Камуністычнай партыяй Непала і правесці перамовы па ўрэгуляванні крывавага канфлікту ў Гімалаях. Тым не менш, на словах віцэ-прэм'ера, тэрарысты, якія ўжо шмат гадоў б'юцца за звяржэнне канстытуцыйнай манархіі ў Непале, несур'ёзна ставяцца да перамоўнага працэсу.

Як сцвярджае агенцтва *MiG News*, за апошні тыдзень у краіне ад рук камуністаў загінулі не менш за 70 паліцыянтаў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Новыя Слабаданы ў цэнтры Бялграда

У югаслаўскай сталіцы ў суботу адбылася маніфестацыя прыхільнікаў былога прэзідэнта краіны Слабадана Мілошавіча. Як паведамляе агенцтва *Deutsche Presse-Agentur*, колькасць удзельнікаў акцыі склала каля 3 тысяч чалавек. Яны трымалі ў руках плакаты з надпісамі «Адпусціце Слоба!» і «Арыштуйце мяне – я таксама Слоба!».

Як вядома, С.Мілошавіч быў затрыманы югаслаўскімі спецслужбамі 31 сакавіка. Яму інкрымінуюць карупцыю і прысвойванне бюджэтных сродкаў.

Удзельнікі мітынгу – у асноўным, людзі пенсійнага ўзросту – прастаялі перад будынкам сербскага ўрада некалькі гадзінаў, пасля чаго разышліся. Арганізатарам мерапрыемства выступала Сацыялістычная партыя Сербіі, старшынёй якой па-ранейшаму з'яўляецца С.Мілошавіч.

Дарэчы, як паведамляюць югаслаўскія сродкі масавай інфармацыі, у пятніцу ўвечары дэманстранты з руху *Otpor* фактычна прымусілі жонку і дачку былога дыктатара з'ехаць з горада Пазарэвац на ўсходзе Сербіі. Міра Маркавіч і Марыя Мілошавіч мусілі выехаць з горада на сваім браніраваным аўто ў суправаджэнні паліцыянтаў.

**Ірына СТАРЦАВА**

## Казахстан учится у Литвы

Прибывший в Литву с визитом президент Казахстана Нурсултан Назарбаев передал президенту Литвы Валдасу Адамкусу материал о политических заключенных и ссыльных литовцах, которые после войны были вывезены в Казахстан, а также адреса учреждений, в которых хранятся архивные данные.

В мае минувшего года во время визита в Казахстан В.Адамкус лично попросил Н.Назарбаева выяснить судьбу почти 300 тысяч сограждан, которые были высланы в казахстанские лагеря и тюрьмы.

Передавая собранный материал, президент Н.Назарбаев сообщил, что в архивах страны удалось найти 80 дел литовских политзаключенных и еще около 114 документов, связанных с литовскими ссыльными. «Я надеюсь, что вы в этом не видите вины Казахстана. Пострадали все народы», — сказал на церемонии передачи материала в президентуре Литвы Н.Назарбаев.

В настоящий момент соответствующие литовские и казахстанские органы готовят проект договора, на основе которого станет возможным перевезти в Литву архивные документы, связанные с депортацией литовцев в Казахстан.

Президенты Литвы и Казахстана подписали в Вильнюсе декларацию об укреплении дальнейших дружеских двусторонних отношений и сотрудничества. Президент Казахстана признал суверенное право Литвы вступить в *NATO* и приветствовал евроинтеграционные процессы. «Мы следим за реформами в вашей стране и учимся», — сказал на брифинге после подписания декларации Н.Назарбаев. По его словам, достижения Литвы являются своеобразным стимулом и для Казахстана.

В декларации президенты обеих стран подтвердили намерения расширять торгово-экономические отношения, в особенности в нефтяной и транспортной сфере. Литва заинтересована, чтобы Казахстан экспортировал нефть и пользовался транзитными услугами. Также в перевозке казахстанских товаров нуждается Клайпедский морской порт.

В завершение трехдневного визита в Литву президент Казахстана Н.Назарбаев посетил Клайпеду и Бутингский нефтетерминал.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com) из Вильнюса**

## Украіну выключаць з Савета Еўропы?

*Ужо ў чэрвені Украіна можа быць выключаная з складу Савета Еўропы. Пра гэта паведаміла дакладчык Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы па Украіне Хане Севярынсен. Афіцыйны Кіеў абвінавачваюць у невыкананні абавязкаў, узятых на сябе падчас уваходжання ў склад СЕ. А прэзідэнт Украіны Леанід Кучма абвінавачваецца ў «злоўжыванні ўладай, прыцясненні свабоды слова і апазіцыі».*



Турэмнае зняволенне для Юліі Цімашэнка таксама можа разглядацца як парушэнне правоў чалавека

Маніторынгавы камітэт ПАСЕ падрыхтаваў справаздачу па Украіне, у якім раіць Савету міністраў СЕ прыпыніць сяброўства гэтай краіны ў складзе арганізацыі. Па словах асноўнага распрацоўшчыка дакумента Хане Севярынсен, на паседжанні камітэта большасцю галасоў былі ўхваленыя ўсе рэкамендацыі і рэзалюцыі, «вельмі крытычныя, асабліва ў дачыненні да прэзідэнта».

Справаздача будзе прадстаўленая на сесіі ПАСЕ 24 красавіка, і да гэтага часу поўны тэкст дакумента будзе захоўвацца ў таямніцы. Тым не менш, украінскай прэсе сталі вядомыя некалькі вытрымак адтуль.

Дакумент абвінавачвае Леаніда Кучму ў злоўжыванні ўладай, прыцясненні свабоды слова і абмежаванні правоў апазіцыі. На думку Хане Севярынсен, ужо толькі гэта можа стаць падставай для выключэння Украіны са складу Савета Еўропы. Дарэчы, калі Украіну выключаць, то гэтае рашэнне будзе першым за больш чым 50-гадовую гісторыю Савета Еўропы.

Нагадаем, што ў склад Савета Еўропы на сённяшні дзень уваходзяць 44 дзяржавы, якія прадстаўляюць практычна ўсю Еўропу, за адзіным выключэннем – Беларусь не ўваходзіць у СЕ. Рэспубліка Боснія і Герцагавіна, а таксама Югаславія маюць статус адмыслова запрошаных гасцей.

Маніторынгавы камітэт ПАСЕ падкрэслівае, што не толькі апошнія падзеі ва Украіне – знікненне незалежнага журналіста Георгія Гангадзэ, «касетны скандал» з запісамі выказванняў прэзідэнта, разгон акцыяў апазіцыі, арышт былога віцэ-прэм'ера Юліі Цімашэнка – сталі прычынай такога неспрыяльнага заключэння. Гэта стала, хутчэй, апошняй кропляй. За апошнія пяць гадоў афіцыйны Кіеў не зрабіў, бадай, нічога з таго, што абяцаў пры ўваходжанні ў склад СЕ. Не былі прынятыя новыя законы аб правах чалавека, аб палітычных партыях, не з'явіўся новы Грамадзянскі кодэкс, Еўрапейская хартыя аб нацыянальных меншасцях і мовах засталася нератыфікаванай Украінай.

Адзінае, што было зроблена на гэтым шляху, – прыняты новы Крымінальна-працэсуальны кодэкс. З спісу пакаранняў выключанае смяротнае, яно заменена на пажыццёвае. Аднак, на думку Хане Севярынсен, гэтага недастаткова для таго, каб лічыцца дэмакратычнай дзяржавай.

«Вы мусіце зразумець, што нашая крытыка датычыць не толькі заканадаўства. Чамусьці ва Украіне існуе меркаванне, што нас цікавяць толькі законы. У нас шмат іншых заўвагаў, якія апісаныя ў маёй справаздачы», – заявіла яна ў інтэрв'ю ўкраінскім журналістам.

Канчатковае рашэнне па далейшым лёсе Украіны ў СЕ будзе прынятае ў чэрвені.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Інаўгурацыя новага прэзідэнта

У Малдове ў суботу адбылася ўрачыстая інаўгурацыя новага прэзідэнта краіны. Як і чакалася, ім стаў лідэр камуністаў Уладзімір Варонін.

Падчас цырымоніі, што праходзіла ў Палацы рэспублікі, новы кіраўнік краіны рэзка асудзіў дзейнасць сваіх папярэднікаў – Мірчы Снегура і Петру Лучынскага.

Уладзімір Варонін заклікаў да змянення курса знешняй палітыкі, перагляду стасункаў з міжнароднымі арганізацыямі, а таксама за павышэнне аўтарытэту дзяржаўнай улады. Ён заявіў, што ў першую чаргу збіраецца развіваць стасункі з суседзямі – Расіяй, Украінай і Румыніяй. Тым не менш, пра ўваходжанне Малдовы ў склад Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі гаворка ўжо не вядзецца.

Яшчэ адзін накірунак дзейнасці, які ўваходзіць у планы прэзідэнта Малдовы, – гэта пошук мірнага ўрэгулявання прыднястроўскага канфлікту. Чакаецца, што ўжо ў бліжэйшы час адбудзецца сустрэча У.Вароніна з Ігарам Смірновым, прэзідэнтам Прыднястроўскай Малдоўскай Рэспублікі, якая была абвешчаная ў 1992 годзе, але не прызнаная ні Малдовай, ні іншымі дзяржавамі. Дарэчы, сам І.Смірноў не прыняў запрашэння ўзяць удзел у цырымоніі інаўгурацыі.

Нагадаем, што летась малдоўскі парламент выдаў закон, паводле якога паўнамоцтвы прэзідэнта краіны істотна паменшаліся, а сам ён мусіў абірацца парламентам. Падчас парламенцкіх выбараў сёлета абсалютную большасць месцаў заваявалі камуністы. Гэта дазволіла ім лёгка абраць свайго прэзідэнта.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Перу абірае новы шлях

У Перу ўчора прайшлі прэзідэнцкія выбары – першыя пасля скандалу з адстаўкай былога кіраўніка дзяржавы Альберта Фухіморы. 15 мільёнаў перуанцаў, што маюць права голасу, мусілі выбіраць паміж 8 кандыдатамі, паведамляе *Associated Press*. Папярэднія вынікі выбараў стануць вядомыя сёння, але лічыцца, што ні адзін кандыдат з васьмёркі не набярэ патрэбныя 50% галасоў у першым туры.

Як вядома, увосень мінулага года тагачасны прэзідэнт Перу Альберта Фухіморы мусіў тэрмінова з'ехаць у Японію, каб не трапіць пад імпічмент, а потым – і за краты. Яго абвінавачваюць у карупцыі і іншых злачынствах супраць дзяржавы.

Апытанні грамадскай думкі напярэдадні выбараў паказваюць, што сярод фаварытаў прэзідэнцкай гонкі – эканаміст Аляхандра Таледа, кандыдат ад кааліцыі «Нацыянальная еднасць» Лурдэс Флорэс і былы прэзідэнт краіны Алан Гарсія.

**Ірына СТАРЦАВА**

# Таджикистан: жизнь в кредит

## Тяжелейшая социально-экономическая ситуация не позволяет надеяться на победу над наркомафией

Виктория ПАНФИЛОВА

*Сегодня Таджикистан является одной из беднейших стран мира. За годы гражданской войны экономика и социальная сфера республики пострадали настолько, что уже несколько лет, прошедших после восстановления мира, нормализовать экономическую жизнь страны никак не удается. Спад производства крайне негативно отразился на уровне и качестве жизни населения.*

Первые шаги по реанимации экономики были предприняты еще в 1994 г., когда правительство разработало программу преобразований на период 1995-2000 гг. И сегодня уже можно подвести предварительные итоги сделанного. Определенные сдвиги к лучшему, безусловно, имеются. После введения национальной валюты республика начала реализовывать собственную кредитно-денежную политику. Пересмотрен порядок налогообложения предприятий, работающих с иностранными инвестициями, что позволило создать более благоприятные условия, стимулирующие приток инвестиций.

Тем не менее, говорить о массовом стремлении инвесторов вложить деньги в экономику Таджикистана пока отнюдь не приходится. Более того, статистические данные в этой области выглядят разноречиво: по данным Всемирного банка, собственностью иностранных инвесторов является немногим более 20 предприятий, в то время как в интервью «НГ» (21.02.01) президент Эмомали Рахмонов говорит о 300 совместных предприятиях. Объем иностранных инвестиций в экономику республики в 2000 г. составил всего 23,2 млн. долл., при этом треть из них поступили из США. Страны СНГ вложили в экономику Таджикистана лишь 692 тыс. долл.



Столица соседнего с Таджикистаном афганского государства. Отсюда в Таджикистан идет поток наркотиков и контрабанды

Основными видами деятельности совместных предприятий являются добыча золота, переработка хлопка-волокна, обработка кожи, фармацевтическое производство, а также завоз в республику промышленного и продовольственного сырья и товаров. Кстати, в прошлом году было добыто 1,5 тонны золота. По оценке экспертов, прибыль иностранных инвесторов в прошлом году едва перекрыла их вложения. Незначительный объем зарубежных инвестиций пока никак не сказывается на росте бюджетных поступлений. Поэтому основным направлением принятой программы экономических преобразований является привлечение иностранного капитала для восполнения нехватки финансовых средств и преодоления технической и технологической отсталости.

Наиболее привлекательным аспектом для зарубежных инвесторов является наличие в Таджикистане многообразных полезных ископаемых, число месторождений которых только в горнодобывающей отрасли приближается к 400.

Средняя заработная плата в 2000 г. достигла 16 сомони (около 7 долларов), при этом, как отмечает Госкомстат республики, она выросла по сравнению с 1999 г. на 32,4%. Размер пенсии не превышает 3 долларов, к тому же она и не выплачивается, как, впрочем, и детские пособия. Доходы населения по сравнению с тем же 1999 г. снизились на 1,7%; а расходы и сбережения — на 9,4%. Объем розничного товарооборота в 2000 г. по сравнению с 1999 г. уменьшился на 9%, что свидетельствует о резком падении потребительского спроса. По оценкам, валовой внутренний продукт в расчете на душу населения не превышает 330 долларов в год. Это последний показатель среди беднейших стран мира.

Поэтому борьба с бедностью является одной из основных задач республики. Начиная с 1994 года ряд международных организаций оказывает Таджикистану финансовую поддержку. Международный валютный фонд разработал новую стратегию выделения кредитов для стран, находящихся за чертой бедности. Одновременно Всемирным банком реконструкции и развития был подготовлен обширный доклад под названием «Оценка бедности в Республике Таджикистан». Всего в 125 населенных пунктах было обследовано 2 тыс. домашних хозяйств, в которых проживают более 14 тыс. человек. В результате выяснилось, что доходы 96% населения ниже уровня минимальной потребительской корзины, 80% населения попадают в категорию бедных, одна треть в категорию очень бедных, почти 20% — в категорию беднейших, т.е. их доход — около 1 доллара США в месяц. Более половины всех семей не ели мясных продуктов в течение 7 дней, 61% не потребляли яиц, 85% не ели кондитерских изделий. Три четверти населения глубоко озабочены проблемой обеспечения своих минимальных жизненных потребностей в ближайший период. В докладе отмечается, что главными причинами бедности являются слабое государственное управление и коррупция. 84% опрошенных заявили, что им приходится платить взятки государственным чиновникам.

Теневая экономика явственно превалирует над открытым сектором. В «тени» скрыто до 80% ВВП. Кроме того, около 40% населения страны убеждены, что проводимые правительством экономические реформы неэффективны. Правительственный курс поддерживают лишь 12% опрошенных. Для того чтобы обеспечить самодеятельное население доходами, равными стоимости минимальной потребительской корзины, требуются ресурсы, равные внутреннему валовому продукту страны, что нереально. Поддержка Таджикистана со стороны иностранных инвесторов и международных банков — это пока единственный способ выживания экономики.

Окончание гражданской войны в 1994 году ознаменовалось не только установлением относительного порядка, но и многомиллиардным дефицитом госбюджета. Тогда же руководство Таджикистана обратилось к мировому сообществу за финансовой помощью, которая продолжается до сегодняшнего дня. В результате внешняя задолженность Таджикистана в настоящее время составила 1,2 млрд. долл. США.

Однако самое большое беспокойство вызывает рост контрабанды наркотиков. Представители ООН считают, что треть афганских наркотиков проходит через Таджикистан. Коррупция и нищета всегда являлись благодатной почвой для такого бизнеса, а в Таджикистане имеется в избытке и то, и другое.

Таджикское правительство в октябре прошлого года сформировало Национальное агентство по контролю за наркотиками. Представители властей пытаются объяснить жителям приграничных районов, какому риску подвергают себя участники транспортировки наркотиков: наркотическая зависимость, суровое уголовное наказание в случае поимки, месть афганских поставщиков, если наркокурьер не рассчитается с ними за доставленный груз. Но для большинства таджиков вопрос стоит куда более просто: как выжить честно, если денег мало или их совсем нет, и как приспособиться к ужасающим реалиям нынешней жизни? Поэтому победить наркомафию в Таджикистане будет крайне сложно, если вообще возможно.

# Пах чарговага «Афгана»

## Расія намагаецца займець саюзнікаў для новай вайны на сваім «подбрюшьи»

Мінулым тыднем у Расіі праходзілі камандна-штабныя вучэнні (КШВ) з шчыра паказальнай назвай «Паўднёвы шчыт». На іх, згодна з паведамленнямі міністэрства абароны РФ, «адпрацоўваліся пытанні падрыхтоўкі і вядзення сумесных дзеянняў па вынішчэнні міжнародных бандфарміраванняў у Цэнтральна-Азіяцкім рэгіёне».

Гэтыя далёкія КШВ маюць непасрэднае дачыненне да беларускага насельніцтва, бо ў «Паўднёвым шчыце» прынялі ўдзел шэсць краінаў: Расія, Арменія, Казахстан, Кіргізія, Таджыкістан і наша Беларусь, якая, у адрозненне ад пералічаных перад ёй, знаходзіцца, можна лічыць, на паўночным захадзе за тысячу вёрстаў ад Цэнтральна-Азіяцкага рэгіёна. З гэтай прычыны немагчыма ўявіць, якія «міжнародныя бандфарміраванні» могуць з'явіцца на беларускіх дарогах, каб іх паспяхова вынішчаць сіламі кааліцыі. Азіраючыся на суседзяў – а гэта Польшча, Літва, Латвія, Украіна і Расія, – каб убачыць «бандфарміраванні», язык не паварнецца назваць каго з іх небяспечным у такіх адносінах. Дык што вывучала на вучэннях Беларусь?

Зразумела, што пост начальніка КШВ заняў расійскі генерал арміі В.Пруднікаў. Астатнія краіны кааліцыі былі прадстаўлены на ніжэйшым узроўні – начальнікамі галоўных аператыўных упраўленняў генеральных штабоў. «Паўднёвы шчыт» праходзіў без выкарыстання тэхнікі – на камп'ютэрах і на картах Цэнтральнай Азіі. На картах, відаць, «бандфарміраванні» былі вынішчаны дашчэнту без чалавечых стратаў.

Адначасна з гэтымі КШВ кааліцыйны генералітэт удзельнічаў у вучэннях супрацьпаветранай абароны. Па іх сцэнару паветраную прастору СНД нібыта парушыла 30 умоўных цэляў, а 70 сапраўдных самалётаў і верталётаў і 50 зенітна-ракетных комплексаў гэтых парушальнікаў з поспехам знішчылі. Генералы вырашалі стратэгічныя задачы – гэта засведчыў пералёт стратэгічных бамбавікоў Ту-95 з месца пастаяннай дыслакацыі ў Энгельсе на ранейшае сваё месца ў Мачулішчах пад Мінскам. Апроч іх, праводзілася «падтрымка з паветра наземных войскаў пры вынішчэнні бандфарміраванняў у Таджыкістане». Глядач расійскіх тэленавінаў пабачыў, як гэтае ўмоўнае вынішчэнне на нейкім палігоне здзяйснялася чаргой моцных выбухаў. Ясна, што ніякія фарміраванні далей Таджыкістана не пройдуць.



Адразу па вучэннях генерал арміі Пруднікаў палічыў неабходным паведаміць, што ваенныя гульні могуць стаць рэальнасцю жыцця ўжо напрыканцы вясны ці напачатку лета бягучага года. Ён паведаў, што мінабароны РФ прагназуе ўзмацненне актыўнасці і колькаснае павелічэнне міжнародных бандфарміраванняў, і вось для супрацьдзеяння бандытам і ствараюцца калектыўныя сілы хуткага разгортвання. Па словах генерала, ужо акрэслены колькасны склад гэтых сілаў і калектыўныя органы ўпраўлення, якія варта размясціць у Бішкеку. Генерал арміі падкрэсліў неабходнасць добрага аснашчэння гэтай вайсковай групоўкі прыборамі назірання, разведкі і вядзення бою ў начных умовах. Кажучы мовай простай, членам кааліцыі, у тым ліку, зразумела, і знішчалай Беларусі, прыйдзецца выдаткаваць на аснашчэнне пэўныя грошы. Канчатковыя сумы выдаткаў будуць вызначаныя на саміце прэзідэнтаў краінаў СНД – членаў Дамовы аб калектыўнай бяспецы. Саміт збярэцца ў Ерэване ў траўні, і прэзідэнты прагаласуюць пытанне аб утрыманні групоўкі войскаў для задушэння ісламскага тэрарызму. Паколькі ў Афганістане ідзе вайна, і талібы выціскаюць сваіх праціўнікаў да мяжы з Таджыкістанам, дык мэтазгоднасць існавання такой групоўкі ніхто не аспрэчыць. Змрочныя прагнозы і праведзеныя вучэнні мусяць паўплываць на станоўчы вынік саміта.

Паралельна распаўсюджваецца інфармацыя пра запланаванае на канец вясны наступленне баевікоў Ісламскага руху Узбекістана на Ташкент. Аднак летась Узбекістан выйшаў з Дамовы аб калектыўнай бяспецы. Прэзідэнт Іслам Карымаў тлумачыў тады, што Расія наўмысна раздзьмувае пагрозу з боку талібаў, «каб пераканаць грамадскую думку ў неабходнасці прыходу сюды расійскіх войскаў ці стварэння тут расійскіх базаў». Што, дарэчы, цалкам верагодна.

Расійскія ваенныя аналітыкі лічаць, што новы азіяцкі фронт вайны расійскае грамадства можа ўспрыняць спакойна ці нават ухваліць. Бо, як назваў Цэнтральна-Азіяцкі рэгіён Аляксандр Салжаніцын, гэта – «российское подбрюшье», а расійскі абывацель даўно звыкся лічыць яго неабходнай часткай Расіі і шкадуе, што яна страчаная. Пужала наступу ўзброенага ісламу на Расію, як і пужала бамбавання Беларусі самалётамі *NATO*, якое выкарыстоўвае нашая ўлада, адпаведна ўплывае на даверлівых. Лічыцца, што на экранах тэлевізараў вайна ў Таджыкістане будзе выглядаць больш прыстойна, чым бясконцая вайна ў Чачні са стратамі, якія цяжка ўтойваць.

Для Расіі важна, каб на Ерэванскім саміце аргументы аб ісламскай пагрозе атрымалі падтрымку саюзнікаў. Тады хутка пачнуць ствараць сілы хуткага разгортвання, з'явіцца іхны бюджэт, і першыя батальёны вырушаць паветранымі шляхамі да вызначанага месца дыслакацыі. Калі Беларусь скажа «так», значыць, і беларускія салдаты прымуць удзел у гэтых сілах і баявых дзеяннях у далёкім азіяцкім рэгіёне насуперак заявам улады, што ніводзін наш вайсковец не будзе служыць за межамі рэспублікі. Прылёт расійскай стратэгічнай авіяцыі пад Мінск і шырокае апавяшчэнне аб гэтай падзеі як пра шчасце ўз'яднання арміяў, што вынікала з тэлерэпартажаў, сведчыць, што нашая ўлада не адмовіць Расіі паўдзельнічаць у яе клопатах пра вяртанне пад свой ваенны дагляд стратэгічнага «подбрюшья». Зразумела, што Расію гэта ўмацуе геапалітычна, але што хоча адшукаць у пясках Азіі Беларусь?

Генрых ГАНСЕЎСКІ

# От диктатуры к демократии

Джин ШАРП

## *Концептуальные основы освобождения*

*Продолжение. Начало в №№ 29, 30, 32, 33, 36*

### 7. Планирование стратегии

Для повышения вероятности успеха лидерам сопротивления необходимо составить всеобъемлющий план действий по объединению страдающих людей, ослаблению и последующему уничтожению диктатуры и созданию крепкой демократии. Для составления такого плана необходимо тщательное исследование ситуации и путей эффективного действия. Такой тщательный анализ может стать базой для разработки как генеральной стратегии борьбы за свободу, так и стратегий отдельных акций. Кстати, разработка генеральной стратегии и стратегий отдельных акций являются различными процессами. Стратегии отдельных кампаний могут быть детально разработаны только после выработки генеральной стратегии. Стратегии отдельных кампаний должны разрабатываться для достижения и укрепления целей генеральной стратегии.

Разработка стратегии сопротивления требует учета множества вопросов и задач. Здесь мы назовем несколько важных факторов, которые должны учитываться как на уровне генеральной стратегии, так и на уровне стратегии отдельной акции. Однако любое стратегическое планирование требует от разработчиков сопротивления глубокого понимания всей ситуации конфликта, включая рассмотрение физических, исторических, правительственных, военных, культурных, социальных, политических, психологических, экономических и международных факторов. Стратегии могут разрабатываться только в контексте конкретной борьбы и ее подоплеки.

Прежде всего, демократическим лидерам и разработчикам стратегии требуется оценить цели и важность дела. Стоят ли цели того, чтобы за них бороться и почему? Необходимо определить действительные цели борьбы. Мы уже утверждали, что одного свержения диктатуры или устранения существующих диктаторов недостаточно. Целью данных конфликтов должно служить создание свободного общества с демократической системой управления. Четкость понимания данного вопроса будет влиять на разработку генеральной стратегии и вытекающих из нее частных стратегий.

В частности, в стратегиях должны содержаться ответы на множество фундаментальных вопросов, подобных следующим:

— Какие основные препятствия стоят на пути свободы?

— Какие факторы будут способствовать достижению свободы?

— На какие основные силы опирается диктатура?

— Какие слабости имеет диктатура?

— Насколько уязвимы источники силы диктатуры?

— Какие силы на стороне демократов и основного населения?

— Какие слабости имеются у демократических сил и основного населения и как они могут быть преодолены?

— Каков статус сторон, непосредственно не вовлеченных в конфликт, кто оказывает помощь или может ее оказать как диктатуре, так и демократическому движению, а также какими способами?

### Выбор средств

На уровне генеральной стратегии разработчикам необходимо выбрать основные средства борьбы, которые будут использоваться в текущем конфликте. Необходимо оценить преимущества и ограничения, присущие альтернативным приемам борьбы, таким, как обычные военные действия, партизанская война, политическое неповиновение и др.

Делая такой выбор, стратегам необходимо принять во внимание следующие вопросы: Соответствует ли избранный тип борьбы возможностям демократических сил? Используют ли выбранные приемы борьбы сильные стороны угнетенного населения? На что нацелены данные приемы борьбы – на слабости диктатуры или они атакуют ее сильные точки? Помогают ли избранные средства демократам стать более уверенными в своих силах, или же данные средства требуют зависимости от третьих сторон или внешних поставщиков? Какой вклад в свержение диктатуры внесут избранные средства? Уменьшают или же ограничивают они число жертв и масштабы разрушений, которые могут возникнуть в результате развития конфликта? Как повлияют выбранные средства на тип правительства, возникшего в результате предположительного свержения диктатуры? Способы действий, признанные неэффективными, должны быть исключены из разработанной генеральной стратегии.

В предыдущих главах мы утверждали, что политическое неповиновение имеет значительные преимущества по сравнению с другими методами борьбы. Стратегам необходимо исследовать конкретную ситуацию и определить, может ли политическое неповиновение положительно ответить на вышеприведенные вопросы.

### Планирование демократии

Необходимо помнить, что основной целью генеральной стратегии борьбы с диктатурой является не простое свержение диктаторов, а установление демократической системы, в которой невозможно появление новой диктатуры. Для соответствия данным целям выбранные средства борьбы должны внести вклад в распределение эффективной власти в обществе. В условиях диктатуры население и гражданские организации весьма слабы, правительство же слишком сильно. Без исправления данного дисбаланса, новые правители могут, при желании, стать такими же диктаторами. Поэтому «дворцовые» и государственные перевороты нежелательны.

Политическое неповиновение вносит вклад в более равномерное распределение эффективной силы путем мобилизации общества против диктатуры, как это описано в пятой главе. Данный процесс может протекать различными путями. Разработка ненасильственных возможностей борьбы предполагает, что насильственные репрессии диктатуры более не вызывают страх и подчинение населения. Население будет иметь в своем распоряжении мощные средства для противодействия, а иногда и блокирования власти диктатора. Более того, мобилизация народных сил через политическое неповиновение усилит независимые организации общества. Опыт единожды примененной эффективной силы быстро не забывается. Знания и опыт, приобретенные в борьбе, снизят вероятность легкого подчинения общества потенциальным диктаторам. Данный сдвиг в соотношении сил, в конечном счете, намного повысит вероятность установления прочного демократического общества.

### Внешняя помощь

В процессе подготовки генеральной стратегии необходимо оценить относительные роли внутреннего сопротивления и внешнего давления при разрушении диктатуры. В данном анализе мы утверждали, что основные силы борьбы должны действовать в самой стране. Степень и само наличие международной помощи стимулируется внутренней борьбой.

В качестве скромного дополнения можно приложить усилия на создание негативного по отношению к диктатуре мирового общественного мнения на гуманитарных, этических и религиозных основаниях. Усилия могут быть направлены на принятие правительственными и международными организациями дипломатических, политических и экономических санкций против диктатуры. Санкции могут принимать формы экономических эмбарго и эмбарго на поставку вооружений, снижения уровня дипломатических отношений и разрыва дипломатических связей, запрета экономической помощи и инвестиций в страну с диктаторским правлением, исключения диктаторского правительства из различных международных организаций и органов Объединенных Наций. Более того, непосредственно демократическим силам может предоставляться международная помощь, такая, как финансовая поддержка и обеспечение средствами связи.

### Разработка генеральной стратегии

В соответствии с оценкой ситуации, выбором средств и определением роли внешней помощи, разработчики генеральной стратегии должны создать общий набросок возможностей развития конфликта. Такой общий план должен охватывать период от текущей ситуации до будущего освобождения и установления демократической системы. При создании генеральной стратегии разработчики должны ответить на множество вопросов. Следующие вопросы представляют собой типы факторов (более конкретные по сравнению с приведенными ранее), которые необходимо принять во внимание при разработке генеральной стратегии политического неповиновения:

Какова общая концепция устранения диктатуры и установления демократии?

Как лучше начать долговременную борьбу? Как угнетенное население может получить достаточную уверенность в себе и силу, чтобы бросить вызов диктатуре, сначала хотя бы в ограниченном масштабе? Как с течением времени и приобретением опыта увеличится способность населения к противодействию и борьбе? Что будет являться целями серии ограниченных кампаний за восстановление демократической власти над обществом и ограничение диктатуры?

Существуют ли избежавшие диктатуры независимые организации, которые могут быть использованы в борьбе за свободу? Какие организации в обществе могут быть освобождены от контроля диктатуры, а также, какие организации должны быть заново созданы демократами для достижения своих целей и создания демократических сфер даже в условиях продолжения диктаторского правления?

Как укрепить организационную силу во время сопротивления? Как обучать участников? Какие ресурсы (финансы, оборудование и т.д.) потребуются в процессе борьбы? Какая символика будет наиболее эффективной при мобилизации населения?

С помощью каких действий и на какой стадии могут быть постепенно ослаблены и истощены источники власти диктаторов? Как борющееся население будет участвовать в своей борьбе, одновременно создавая необходимый ненасильственный порядок? Как общество будет удовлетворять свои основные потребности в процессе борьбы? Как будет поддерживаться социальный порядок в процессе развития конфликта? Каким образом при достижении победы демократическое сопротивление продолжит создание институциональной базы постдиктаторского общества, чтобы переход был возможно более мягким?

Необходимо помнить, что для всех освободительных движений против диктатуры нет и невозможно создать эталонный план разработки стратегии. Каждая борьба за свержение диктатуры и установление демократической системы будет чем-то отличаться. Нет полностью похожих ситуаций, каждая диктатура имеет несколько индивидуальных характеристик, также различаются возможности населения, борющегося за свободу. Разработчики генеральной стратегии должны иметь глубокое понимание не только данной конфликтной ситуации, но и выбранных для борьбы средств.

По окончании тщательной разработки генеральной стратегии здравый смысл призывает сделать ее широко доступной. Большое количество сторонников, необходимых для действий, будут действовать с большим желанием, если они будут понимать как общую концепцию, так и отдельные инструкции. Такие знания потенциально могут оказать весьма положительное воздействие на их моральный дух, готовность принимать участие и правильно действовать. Основные положения общей стратегии во всяком случае станут известны диктаторам, знание основных положений потенциально может привести их к снижению жестокости репрессий, так как данные репрессии могут иметь политическую отдачу, направленную на них самих. Знание отдельных характеристик генеральной стратегии также потенциально может привести к разногласиям и измене в самом лагере диктаторов.

Приняв генеральный стратегический план свержения диктатуры и установления демократической системы, продемократическим группам необходимо проявить настойчивость в его воплощении. Отклонения от начальной общей стратегии должны происходить только в самых редких случаях. Необходимость в изменении генеральной стратегии может возникнуть у разработчиков только при полной уверенности, что избранная генеральная стратегия составлена неправильно, либо обстоятельства борьбы претерпели фундаментальные изменения. И даже в этом случае это должно делаться только после повторного фундаментального исследования и разработки и утверждения нового, более адекватного стратегического плана.



### Планирование стратегии кампаний

Однако, как бы разумна и многообещающа ни была разработанная генеральная стратегия свержения диктатуры и установления демократии, она не реализуется сама собой. Необходимо разработать отдельные стратегии проведения кампаний, нацеленных на подрыв диктаторской власти. Такие стратегии, в свою очередь, будут включать совокупность тактических маневров, проводящих решающие удары по диктаторскому режиму. Тактика и отдельные методы действий должны тщательно выбираться таким образом, чтобы внести вклад в достижение целей каждой конкретной стратегии. Здесь же обсуждаются только вопросы стратегического уровня.

Стратеги, планирующие основные кампании, как и разработчики генеральной стратегии, должны иметь всестороннее понимание природы и характеристик выбранных способов борьбы. Подобно армейским офицерам, которым для разработки военной стратегии необходимо знать структуру сил, тактику, материально-техническое снабжение, снаряжение, географические условия и т.д., разработчики политической борьбы должны понимать природу и стратегические принципы ненасильственной борьбы. Однако, ни знания ненасильственной борьбы, ни следование советам данного пособия, ни ответы на приведенные здесь вопросы сами по себе не формируют стратегии. Разработка стратегии требует подкрепленного знаниями творчества.

*Продолжение следует*

# Беларускі Рэзістанс

## *Падзеі і асобы беларускай антыбальшавіцкай партызанкі 1920-х гадоў*

Як рэалізацыя праекта «Гісторыя, якой няма ў падручніках» прыйшло да чытача – адно з доўгачаканых даследаванняў нашай недалёкай мінуўшчыны. Яго аўтар – кандыдат гістарычных навук Ніна Стужынская – асвятляе амаль невядомы ў нас пласт гісторыі — узброены супраціў бальшавізму на Беларусі ў пачатку 1920-х гадоў, а болей дакладна – Слуцкае паўстанне і барацьбу, якую вяла Беларуская палітычная арганізацыя «Зялёны Дуб». Веды нашага грамадства пра гэтыя драматычныя падзеі былі ды і ёсць надта павярхоўныя, бо савецкая гістарычная навука не падступалася да антыбальшавіцкай партызанскай дзейнасці, не маючы дазволу, а тыя, хто дазвол ад АГПУ–КДБ меў, пісалі ганебную хлусню. Дакументы захоўваліся ў спецархівах, удзельнікі і сведкі падзеяў былі пагалоўна вынішчаныя.

Па сутнасці, даследаванне спадарыні Стужынскай запаўняе вялізную лакуну ў айчыннай гісторыі, і, што не менш важна, ейная праца вяртае нашай навуцы годнасць. Пасля знаёмства з гэтай кнігай беларуская гісторыя 20-га стагоддзя ўспрымаецца інакш – і больш трагічна, і больш шырока, без той крывадушнай адназначнасці, якую прышчэплівае грамадству камуністычны рэжым і якую намагаюцца рэанімаваць адэпты савецкай ідэалогіі сёння.

З 20-х гадоў антыбальшавіцкія сялянскія паўстанні і партызанка менаваліся ўладамі як «бандытызм», і таму адкідвалася ад разгляду палітычная платформа Рэзістансу, яго арганізаваныя формы і лік удзельнікаў.

«Можна ўявіць сабе гэтую колькасць люду, — піша даследніца пра Слуцкі ўзброены чын, — калі ў паўстанні прынялі ўдзел амаль усе вясковыя дарослыя мужчыны. Аб гэтым сведчаць спісы ўдзельнікаў паўстання з вёсак Сарагі, Востраў-Боркі, Шышчыцы, Лелькі, Машчыцы і інш. З вёскі Шышчыцы, напрыклад, толькі адзін з мужчынскай грамады трапіў у Чырвоную Армію, астатнія 72 дэзерціравалі і запісаліся добраахвотнікамі ў Брыгаду БНР на чале з капітанам Анупрэем Няронскім».

Расправа над случакамі пачалася ў 1921 годзе і працягвалася па 1939. Людзей судзілі па некалькі разоў, напачатку – давалі 2 гады зняволення, а потым (з пашырэннем сталінскага тэрору) – пасылалі на 15-20 гадоў у канцлагеры ці на расстрэл. «Вядомага случака Сяргея Бусла і Янку Пешку (ён жа зялёнадубец Густалес), — паведамляе аўтар, — схапілі адразу, як толькі Чырвоная Армія ў верасні 1939 года ўвайшла ў Вільню. Так спяшаліся, *што пратакол затрымання* аформілі толькі праз месяц, сабраўшы ўсіх сваіх ахвяраў у Вілейскай вязніцы. Сам Цанава сачыў за аперацыяй захопу». Зразумела, ніхто з іх не дачакаўся волі.

Філімон Арцыховіч

Асобным дадаткам даследаванне мае спіс удзельнікаў паўстання. Н.Стужынская папярэджвае, што спіс няпоўны, бо вычысцілі Случчыну з гэткай увагай, што немагчыма знайсці сведкаў, удакладніць імёны і біяграфіі. Н.Стужынская дакладна праследжвае храналогію паўстання, падае дакладныя звесткі пра арганізацыю войска, баявыя дзеянні і драму інтэрнавання праз польскі бок.

Нават менш, чым пра Слуцкае паўстанне, нашае грамадства ведае пра «Зялёны Дуб». «Беларуская сялянская партыя «Зялёнага Дуба» існавала яшчэ ў царскі час як палескае зямляцтва студэнцкай моладзі, народжанай на Палессі» — так акрэсліў час яе ўзнікнення кіраўнік арганізацыі Вячаслаў Адамовіч, вядомы як атаман Дзяргач. Улетку 1921 года зялёнадубцамі была выпрацаваная праграма, якая прадугледжвала непрымірымую барацьбу з камуністычнымі ўладамі, дэмабілізацыю Чырвонай Арміі і вызваленне сялянаў з камуністычнага рабства, пабудову дэмакратычнага ладу на пачатках народаўладдзя, прызнанне дзяржаўнай самастойнасці за ўсімі народамі, што раней уваходзілі ў склад былой Расійскай імперыі. Арганізацыя «Зялёнага Дуба» будавалася па баявых пяцёрках, каб застрахавацца ад маштабных правалаў пры правядзенні баявых дзеянняў, тым больш што арганізацыя не адмаўлялася ад тэрору. «Савецкая ўлада не прызнае права – ёй зразумела толькі сіла. Сама трымаецца толькі тэрорам, расстрэламі, запужваннямі. Адкажам тым жа. Тэрор – тэрору». Найбольш актыўнай была арганізацыя Народны хаўрус «За Бацькаўшчыну», якая паўстала намаганнямі случакоў А.Паўлюкевіча, палкоўніка Бранавіцкага, капітана Яновіча. У студзені 1922 года арганізатары зрабілі заяву аб галоўных мэтах: «вызваленне Бацькаўшчыны з рук камуністаў, утварэнне Незалежнай Непадзельнай Беларусі ў яе этнаграфічных межах...» Дзеля гэтага вялася партызанская барацьба. Даследніца прыводзіць цікавыя звесткі пра партызанскія аддзелы на Ігуменшчыне. У іх уваходзілі сяляне вёсак Рэпішча, Сёмкава Слабада, Зафранцузская Грэбля, Новая і Старая Дубравы, Волма, Усохі, Суцін, Турная Гара ды інш.

Барыс Карэнда

Не толькі самі зялёнадубцы, але іх сем'і і сваякі зведалі рэпрэсіі з боку савецкай улады. Ніна Стужынская прыводзіць паказальны дакумент – загад Рэўваенсавета Заходняга фронту:

*«Конфисковать всё имущество полностью у всех дезертиров и бандитов, которые не сдались добровольно. Также поступить с имуществом семей дезертиров и бандитов, семей укрывателей. Конфисковать полностью и срочно все имущество граждан, которые прячут дезертирское и бандитское имущество. Все конфискованное у дезертиров и бандитов и их семей и укрывателей немедленно передать семьям честных красноармейцев в других областях и районах»*. Бандытамі тут называюцца партызаны-зялёнадубцы.

Жорсткасць чэкістаў была такая, што ўжо 1921 адзначаны масавымі расстрэламі зялёнадубцаў. Так, 19 кастрычніка 1921 года ЧК расстраляла ў мінскай турме дзвюх дзяўчын-сувязных «Зялёнага Дуба» – Ганну Доўтерт і Ганну Бруевіч — і двух сяброў мінскай арганізацыі – Георгія Крывашэіна і Уладзіміра Кубара.

Практыкавалася ў той час і масавае высяленне з радзімы. Так, у 1921 годзе былі выселеныя на расійскую поўнач вёскі, дзе маладыя мужчыны ўдзельнічалі ў партызанцы, а бацькі на іх не даносілі. Канкрэтна на Ігуменшчыне было вывезена насельніцтва вёсак Зафранцузская Грэбля, Рэпішча, Ганутава, Уборкі, Сёмкава Слабада. Насельніцтва Балоцкага сельсавета скарацілася пасля высяленняў на 80%. Чатыры з кожных пяці сялянаў савецкая ўлада палічыла «бандытамі». Зразумела, што такі буйнамаштабны генацыд можа пакончыць з супраціўленнем.

Юры Лістапад

Няма людзей – няма супраціву.

У ліку зялёнадубцаў падаецца ў кнізе і малавядомая нам постаць віленскага беларуса Барыса Карэнды, які на вакзале ў Варшаве застрэліў прадстаўніка СССР Пятра Войкава. Гэта быў адзін з самых гучных тэрарыстычных актаў 20-х гадоў. Б.Карэндзе было 19 гадоў. На судзе ён матываваў свой ўчынак палітычнымі падставамі.

Георгій Крывашэін

Асуджаны на 15 гадоў зняволення, Карэнда праз чатыры гады камернай адзіноты сышоў з жыцця, перарэзаўшы сабе вены.

Ніна Стужынская далучыла да кнігі шэраг дакументаў, літаратурныя творы зялёнадубцаў з апісаннямі жыцця ў лесе і палітычных стасункаў. І яшчэ тую колькасць фотаздымкаў удзельнікаў Беларускага Рэзістансу, якія ўдалося знайсці.

Выданне ўражвае як адкрыццё невядомага мацерыка ў знаёмай нібыта прасторы нашай гісторыі.

**Пятрусь КЛІМКОВІЧ**

## Руіны крэпасці хаваюць пад гранітам

У Брэсцкай крэпасці ўсё больш зношваюцца ўцалелыя будынкі і іх парэшткі з чырвонай цэглы. Нельга назваць усур'ёз рэстаўрацыйнай тую працу, што выконваюць улетку валанцёры. Дрэнна таксама і з заходнімі казармамі і казематамі. Арэнда іх для пабочных фірмаў каштуе нядорага, а эксплуатацыя мае непапраўныя страты для гісторыі, бо піларамы і станкі значна скарачаюць амартызацыйны тэрмін памяшканняў крэпасці. Усе тыя сродкі, прыкладам, ад Беларусі, Расіі, урада Масквы, Казахстана і Малдовы (за тры гады – 764 тысячы долараў) укладваюцца пераважна ў будаўніцтва ансамбля з бетону і граніту. На плошчы Цырыманіялаў ствараецца зараз пляц памерам 12.000 квадратных метраў. Пры пашырэнні ўваходу на яго будаўнікі падрэзалі бульдозерам вугал руінаў і выкінулі іх на сметнік.

Якім пабачаць сімвал салдацкай мужнасці нашы нашчадкі? Сёння абаронцаў засталося не болей як 40 чалавек. На запрашэнне наведаць Брэст 22 чэрвеня, у дзень 60-годдзя першага бою, адгукнуліся пакуль усяго 6 абаронцаў...

**Галіна БАРАВАЯ**

**ПРЫЗНАННЕ**

Фота IREX/ProMedia

5 красавіка вядомы беларускі пісьменік Васіль Сёмуха атрымаў узнагароду ад Германскай дзяржавы. Пасол Хорст Вінкельман уручыў яму Крыж кавалера ордэна «За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй». Васіль Сёмуха за сорак гадоў літаратурнай дзейнасці пераклаў на беларускую мову мноства твораў нямецкай класікі, сярод іх такія значныя творы, як «Фауст» Гётэ і «Доктар Фаустус» Томаса Мана.

Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ шчыра віншуе шаноўнага спадара Сёмуху з прызнаннем ягоных заслугаў нямецкім бокам і жадае здароўя, радасці і творчага плёну.

## Іспыты заменяць тэставаннем

*Міністэрствам адукацыі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі (БДУІР) з 4 па 11 красавіка праводзіцца досыць цікавы эксперымент – тэставанне абітурыентаў.*

У Рэспубліканскім інстытуце кантролю ведаў распавялі, што тэставанне праходзіць на камп'ютэрах па трох прадметах – матэматыка, фізіка і мова з літаратурай. Патэнцыйныя студэнты за 50 хвілінаў выконваюць заданні па адмыслова складзеных расійскіх праграмах (у Расіі сістэма тэставання распаўсюджаная ўжо досыць значна), якія паступаюць праз інтэрнэт). Усяго такое тэставанне на працягу тыдня ў БДУІРы пройдуць 280 чалавек: штодня ладзіцца па чатыры тэставыя сеансы для дзесятка чалавек. Дарэчы, тэставанне платнае. Яно каштуе каля 9 тысячаў за прадмет.

Выніковыя па тэставанні балы перакладаюцца на звыклыя ўсім адзнакі, а прайшоўшыя яго атрымліваюць спецыяльны сертыфікат. Ён можа замяніць уступныя іспыты ў вышэйшыя навучальныя ўстановы альбо выпускныя экзамены ў школах: прызнаваць ці не прызнаваць сертыфікат, будзе вырашаць кожная канкрэтная ўстанова сярэдняй і вышэйшай адукацыі.

Пакуль што пра шырокі распаўсюд тэставання і замену ім традыцыйных іспытаў казаць зарана, бо зараз ідзе нават толькі эксперымент, а не пачатак грунтоўнага рэфармавання. Паводле разлікаў спецыялістаў, выпускныя экзамены працэдура тэставання заменіць прыкладна праз 5 гадоў, а ўся сістэма адукацыі пяройдзе на яго – праз тэрмін удвая даўжэй. Аднак ніхто не сумняваецца, што такі пераход адбудзецца, бо пры тэставанні, у адрозненне ад традыцыйных іспытаў, выключаецца суб'ектыўнасць пры вызначэнні адзнакаў.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Фестываль рэкламы «Канскія львы»

13-14 красавіка ў канцэртнай зале «Мінск» пройдзе прэзентацыя міжнароднага фестывалю рэкламы «Канскія львы». Яе арганізуюць беларускія рэкламныя агенцтвы «Крынь» і *«D`Arcy Partisan»*, а таксама расійскае рэкламнае агенцтва *«Euro RSCG Maxima»* пры падтрымцы кампаніяў «*Schwarzkopf&Henkel*», «Камп'ютэры і перыферыя», Беларускага відэацэнтра, гатэля «Планета» і друкарні «Тарпей».

Гэта будзе трэцяя па ліку прэзентацыя «Канскіх ільвоў» у Мінску. Асноўнае дзеянне прэзентацыі складзе паказ прац пераможцаў і прызёраў 47-га фестывалю 2000 года. Аднак, апроч гэтага, 13 красавіка гледачы ўпершыню ўбачаць лепшыя рэкламныя творы фестывалю *«Golden Drum»* (Славенія), які лічыцца найбуйнейшым рэкламным форумам краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. А 14 красавіка «Канскіх ільвоў» дапоўняць пераможцы ўжо добра вядомага ў Беларусі Маскоўскага міжнароднага фестывалю рэкламы.

Што тычыцца фестывалю *«Golden Drum»*, то беларускі глядач зможа ўбачыць лепшыя рэкламныя ролікі з краінаў Усходняй Еўропы, пра якіх ён пакуль ведае мала. Спецыялісты адзначаюць асаблівасць гэтых прац — удалае спалучэнне заходняга падыходу да крэатыву ў рэкламе і элементаў «свайго, славянскага».

Прэзентацыя «Канскіх ільвоў» арганізуецца ў рамках фестывалю кампаніі *«Schwarzkopf&Henkel»*, прымеркаванага да 125-годдзя кампаніі. Гэтая акцыя пройдзе ў васьмі краінах СНД і працягнецца 125 дзён, з красавіка па ліпень. Па словах аднаго з арганізатараў прэзентацыі, творчага дырэктара рэкламнага агенцтва «Крынь» Аляксандра Шэвялевіча, гэта не камерцыйны праект, а акцыя, скіраваная на прапаганду рэкламнага мастацтва і далучэння да сусветнай культуры. Прэзентацыя «Канскіх ільвоў» заклікана прадэманстраваць жыхарам Беларусі, у тым ліку патэнцыяльным кліентам і рэкламадаўцам, што ёсць сапраўдная рэклама. Гэта, па словах Шэвялевіча, узніме іх патрабаванні да працы рэкламных агенцтваў, а значыць, — будзе садзейнічаць развіццю рынку рэкламы ў Беларусі.

**Маша ПЯТРОВА, БелаПАН**

## Шатландцы палююць на прывіды

Беспрэцэдэнтнае паляванне на прывідаў пачалося ў старажытным Эдынбургскім замку, які лічыцца адным з найбольш населеных сусветнымі зданямі ва ўсёй Шатландыі. Каманду даследнікаў і добраахвотных памочнікаў узначальвае псіхіятр Рычард Вайзман, які спецыялізуецца на паранармальных з'явах. Яго суправаджаюць дзевяць універсітэцкіх вучоных і каля 200 добраахвотнікаў (валанцёраў), якія будуць найперш хадзіць ноччу па калідорах, падзямеллях і паддашках замка ў пошуках зданяў. У эксперыменце задзейнічана складанейшая апаратура, здольная здзяйсняць электрамагнітныя вымярэнні, выяўляць паветраныя патокі, тэмпературныя змены, геамагнітныя хваляванні, ультрагукі і да т. п. Асаблівую ўвагу паляўнічыя на прывідаў маюць намер удзяліць мясціне вакол паўднёвага моста замка, дзе, згодна з традыцыяй, з'яўляюцца прывіды людзей, пахаваных там жыўцом у часе эпідэміі чумы. Апроч іх, калі верыць турыстычным даведнікам, у замку з'яўляюцца і іншыя прывіды – здань, які грае на валынцы, маці з мёртванароджаным дзіцем і г. д.

«Мы жадаем даведацца, ці ўсё гэта толькі мроі ці праўда, – патлумачыў мэту эксперымента доктар Рычард Вайзман. – У любым выпадку гэта не стане марнай тратай часу. Вопыт дазволіць зразумець механізм, які прыводзіць людзей да веры ў прывіды».

Да гэтага доктар Р.Вайзман займаўся пошукамі прывіда пятай жонкі караля Генрыха VIII у замку Хэмптон-Корт каля Лондана. Яна была пакараная смерцю пасля таго, як муж даведаўся пра некаторыя яе дашлюбныя любоўныя прыгоды. «Палова наведвальнікаў, з якімі я размаўляў, адчувалі дзіўныя пачуцці, – адзначыў вучоны-псіхіятр. – Але я не знайшоў ніякіх доказаў існавання яе прывіда». Па яго словах, блізкасць прывіда выклікае ў чалавека пачуццё «моцнага холаду, цяжкасці з дыханнем і ціску на грудзі».

У нас на Беларусі таксама ёсць мясціны, дзе многія эмацыянальна адораныя людзі сустракалі прывідаў – найбольш вядомыя – гэта прывід Крэўскага замка і «Чорная» дама» ў Нясвіжскім. У нашай краіне пакуль што паляванне на прывідаў не праводзілася.

**Валянціна ДУНІНА**

## Індзейцы намагаюцца адрадзіцца

Колькасць індзейскага насельніцтва Бразіліі павялічылася з 1995 па 2000 год на 17%. Гэта азначае, што тэмпы нараджальнасці аўтаханаў значна перавышаюць агульнанацыянальныя. Згодна з апошнімі статыстычнымі дадзенымі, за пяць гадоў колькасць індзейцаў у буйнейшай краіне Лацінскай Амерыкі ўзрасла з 300 да 350 тысяч чалавек. Агулам насельніцтва Бразіліі за гэты перыяд павялічылася на 9,7 працэнта і дасягнула 170 мільёнаў.

Перад прыбыццем у пачатку стагоддзя першых партугальскіх падарожнікаў на тэрыторыю сённяшняй Бразіліі там жыло болей за 6 мільёнаў індзейцаў розных плямёнаў. Бальшыня абарыгенаў была забітая ці памерла з-за невядомых там завезеных з Еўропы інфекцыйных захворванняў. Цяпер бразільскія індзейцы існуюць на тэрыторыі каля 104 мільёнаў га.

Па дадзеных даследнікаў, у адноснай ізаляцыі ў сельве Амазонкі да сёння пражываюць 53 невялікія племені абарыгенаў, а па меншай меры 16 плямёнаў яшчэ ні разу не кантактавалі з белым чалавекам, што і выратоўвае іх ад вынішчэння.

На фоне агульнага 170-мільённага насельніцтва 350-тысячная меншасць карэннага насельніцтва змрочна сімвалізуе трагедыю, перажытую індзейцамі Амерыкі ў XVI і наступных стагоддзях. Абуджэнне нацыянальнай свядомасці індзейцаў дае ім падставы спадзявацца на захаванне сваёй культуры і супраціву цывілізацыі, скіраванай на іх поўнае знікненне.

**Ірына КОРТЭС**



# Революция в вооруженных силах

**Жилль АНДРЕАНИ, бывший глава группы планирования Министерства иностранных дел Франции в период с 1995 по 1999 г. Кристоф БЕРТРАМ, директор Центра по исследованию международных отношений Германии; Шарль ГРАНТ, директор Центра европейских реформ**



Создание евро – революционное нововведение в самой природе ЕС, которому предстоит развиваться путем проб и ошибок – вызвало бурное обсуждение на всем континенте и за его пределами. Поэтому планы по созданию общей оборонной политики Европейского Союза до сих пор привлекали значительно меньше внимания. Американцы спрашивают: «О чем волноваться?» – и указывают на действенность *NATO*. Европейцы испытывают сложности с ответом на этот вопрос частично потому, что единственного ответа не существует.

Прагматики делают упор на растущем числе внешних вызовов – на Балканах, в Средней Азии, в Африке или где-либо еще, требуя согласованного ответа на эти вызовы. Аргумент, на котором основывается позиция некоторых французских голлистов и многих представителей левого крыла в ЕС, заключается в том, что Европе необходима единая внешняя и оборонная политика для оказания сопротивления американской гегемонии. Эта антиамериканская точка зрения, тем не менее, не так широко распространена. Сторонники единой внешней и оборонной политики ЕС считают, что Европа, которая способна сама позаботиться о своей обороне, будет лучшим партнером для Соединенных Штатов.

Замешательство и сомнения появляются в настоящий момент по причине неопределенности возможных функций Сил быстрого реагирования (СБР), ключевого шага в разработке единой политики в указанных сферах. СБР, как говорится, должны быть способны выполнять так называемые «задачи Петерсберга». Все еще «процесс мирного урегулирования» (одна из этих задач) может охватить что-либо помимо операции Альба, когда в 1997 году Италия ввела шеститысячный контингент сильных европейских войск в Албанию для подавления анархии, и быть использован для атаки против мятежников в Сьерра-Леоне, для участия в конфликтах типа войны в Персидском заливе. Поскольку правительства всех государств-членов ЕС знают, что в обозримом будущем Европа будет способна осуществлять только скромные военные операции, сейчас не имеет смысла определять, как будут использоваться силы быстрого реагирования.

Увеличение способностей Европы позволит Америке поручить своим союзникам заботу о многих очагах нестабильности в самой Европе и за ее пределами. Более того, добавление обороны к неформальному требованию, которым должны будут удовлетворять государства – будущие члены ЕС, сократит давление на *NATO*, связанное с его расширением. ЕС, привязанный к своей собственной обороне, хотя и не предлагающий такие же формальные гарантии, как *NATO*, предоставляет государствам-кандидатам перспективу принадлежности к истинному сообществу по обеспечению безопасности.

В более обобщенном принципиальном значении, создание Европы, целой и свободной, но в тоже время единой, является величайшим успехом внешней политики Америки второй половины предыдущего столетия. Для окончательного достижения данной цели ЕС должен стать полностью сформировавшимся участником международных отношений.

Следовательно, вызовы, брошенные Соединенным Штатам общей оборонной политикой Европы, преимущественно носят психологический характер. В Европе, тем не менее, эти вызовы являются делом воли и политического лидерства, которые не могут исходить от комитетов. Ниже мы предлагаем ряд институциональных реформ, включающих:

Установление всеевропейской цели для государственных оборонных бюджетов, согласно которой государства-члены будут затрачивать, по крайней мере, 2% ВНП на оборону и 25% своих оборонных бюджетов на закупку вооружения.

Создание специального оборонного бюджета ЕС для финансирования единых действий, обеспечения возможностей и программ вооружениию

Полномочия для создания коалиций, требования, чтобы правительства укладывались в намеченные сроки, создание поддержки или принятие на себя вины за ошибки, должны исходить от традиционного источника лидерства – национального государства. Поскольку ни одно из государств-членов ЕС не может обеспечить доминирующее лидерство, которым Соединенные Штаты наделили *NATO* во время холодной войны, Великобритания, Франция и Германия должны принять на себя эту роль в Европе. Если одно их этих трех государств было бы против общих действий, связность и доверие к любым предпринимаемым ЕС шагам, было бы разрушено. Но если эти три государства будут намерены двигаться вперед, они будут представлять волю большинства, если не всех, государств-членов ЕС.

Участие в этой группе влечет за собой не власть для командования, а обязанность осуществлять лидерство и вести за собой. Если эти три государства не смогут достичь между собой согласия во время кризиса, Европа будет нокаутирована, если силы при осуществлении действий будут объединены, Европа будет введена в дело. Таким образом, Великобритания, Франция и Германия должны начать думать об ЕС как о едином целом, неся на себе самое тяжелое бремя и беря на себя наибольшие риски. Необходимо, чтобы их лидерство было неформальным, прозрачным и содержательным.



# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 9 - 15 апреля

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**Овен.** Друзья или единомышленники не дают скучать. И вероятно, что способны предложить весьма толковые предприятия. Вот только в субботу следует больше полагаться на себя, не слушая советов со стороны. В этот день кто-то попытается расставить сети обманчивых обещаний. Вам может просто повезти на этой неделе, поэтому не раздумывайте долго над неожиданными возможностями.



**Телец.** Ваш усердный труд не проходит незамеченным, ожидайте признания заслуг. Не бойтесь перемен. Чтобы достичь цели, на этой неделе имеет смысл рискнуть, и тогда можно будет попить шампанского. Вот только суббота не вполне подходящий, коварный день. В среду вероятно поступление небольшой суммы денежных средств из неформальных источников.



**Близнецы.** Не стоит рассчитывать только на свои силы, партнер или супруг способен добиться большего. «Ходите в народ». Если вас волнуют вопросы юриспруденции, то на этой неделе лучше всего находить приемлемые варианты их решения. В субботу не рекомендуется проходить границу или участвовать в общественных мероприятиях – вероятно несчастливое стечение обстоятельств.



**Рак.** Вам нечего терять на этой неделе, кроме своих цепей. Предоставится шанс выйти из зависимого положения, рассчитаться с долгами. Но для этого следует хорошо поработать и выполнить определенные предписания. Постарайтесь в субботу не подписывать какие-либо документы и не разъезжать по окрестностям – хлопот и ненужных разговоров потом не оберешься.



**Лев.** Вас попытаются втянуть в какую-то авантюру. И здесь вряд ли имеет смысл сопротивляться, поскольку игра может стоить свеч. Вы способны увлечь кого угодно не только красноречием, но и собственным обаянием. Готовьтесь отражать атаки поклонников. В субботу доверяйте только собственному опыту и представлениям, не полагайтесь на супруга или партнера.



**Дева.** Вы в одно мгновение, пользуясь случаем, способны решить насущные бытовые проблемы, изменить обстановку в доме. Ваши собственные дети удивляют своими глобальными задачами и удачными их разрешениями. Ожидайте гостей или делегацию в среду и не бойтесь принимать нестандартные ходы для урегулирования любых рабочих вопросов. Намечается обновление кабинета.



**Весы.** Легче воспринимайте действительность, играйте, блефуйте и интригуйте. Но финансы в субботу желательно попридержать, да и окружающим совсем необязательно знать, какой суммой вы располагаете. Публика готова носить вас на руках, побольше общайтесь и выступайте. Кто-то на пороге заключения удачного союза.



**Скорпион.** О ваших финансовых подвигах могут сложиться легенды, удача поселилась в вашем кармане. Хорошо вкладывать деньги в недвижимость, если только не заниматься этим в субботу. Если вы запланировали компанию, то самое время найти хороших спонсоров. Нотариальное оформление документов лучше назначать на среду. Кто-то «получит добро» на заграничный выезд.



**Стрелец.** Вы главный игрок и авантюрист на этой неделе, ищите приключения и находите их. Случайные встречи вдруг дают новые возможности в деятельности. Побольше стучитесь в двери, и они откроются. Основная проблема – здоровье близких людей, ради которых придется побегать. Не назначайте беготни или поездки на субботу – просто не повезет.



**Козерог.** Если покой вам только снился, то сейчас вполне заслуженно может быть дарован шанс отличного вложения денег или получения реальной прибыли. Домашние работают на вас, вполне удачными могут оказаться сделки с недвижимостью, но только не в субботу. Отдыхать не придется – работайте на результат столько, сколько надо. О ваших успехах будут говорить публично на собраниях, совещаниях или симпозиумах в среду.



**Водолей.** Жить становится веселей, рисковать и блефовать вы умеете. Но даже с таким опытом вам придется тысячу раз поменять планы. Будут подталкивать поучаствовать в массовых акциях и беготне, может быть – даже просто так, за компанию. И события вашей жизни в сильной степени будут зависеть от окружения. Будьте поумереннее в субботу, не верьте никому на слово. Среда – день любви.



**Рыбы.** Вы можете явиться заложником какой-то ситуации, в сильной степени – в субботу. Себе не принадлежите и вынуждены считаться с чьим-то мнением. Причем окружает вас достаточное количество ненадежных и авантюрных личностей. Придется действовать решительно и по существу. Тактика прямолинейного общения с власть имущими предпочтительна, тем более что все равно темнить не получится.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1698 Нумар падпісаны ў друк 8/04/2001 (15:00) Наклад – 9.370